# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Субота, 23 ліпеня 1994 года | № 77 (10777) | Цана 200 руб.

# ВЫХАД АДЗІН — ПРАЦАВАЦЬ УСІМ РАЗАМ

У чацвер, 21 ліпеня, у авальнай зале Дома ўрада, дзе засядае Вярхоўны Савет, як і напярэдадні, была асаблівая абстаноўка — усе чакалі выступлення Прэзідэнта, у якім ён абяцаў данесці да народа сітуацыю ў дзяржаве і акрэсліць шляхі выхаду з крызісу.

Няма неабходнасці пераказваць выступленне Аляксандра Лукашэнкі. Яно гучала па тэлебачанню і радыё, публікуецца ў газетах. Таму ў першым перапынку парламенцкага пасяджэння мы папрасілі некалькіх дэпутатаў, што называецца, па гарачых слядах, сказаць, якое ўражанне зрабіў на іх даклад Прэзідэнта.

**Мікалай ГАРЭЛІК:** — Прэзідэнт расказаў аб надзвычай цяжкай сітуацыі, але, як кажуць, Амерыкі не адкрыў. Аб гэтым мы ведалі. Я чакаў, што ён вызначыць накірункі, па якіх рэспубліка будзе выходзіць з крызісу, акрэсліць "калідор" для гэтага, Але, па вялікаму рахунку, пачуў адно — трэба знайсці грошы. Цяжкасці Лукашэнкі я разумею: не стварыўшы ўрада да канца і не зацвердзіўшы яго ў парламенце, цяжка гаварыць аб якіх-небудзь рашучых зменах.

**Вячаслаў КЕБІЧ:** — Даклад нармальны. Ён адлюстроўвае тую рэчаіснасць, якая ёсць сёння, хоць у ім ёсць маленькія шурпатасці, недакладнасці. Але ў цэлым я стаўлюся да выступлення Прэзідэнта як да даклада, у якім выкладзены пэўныя пазіцыі. Іншае пытанне, як гэта ўсё ажыццявіць. Але гэта ўжо справа Прэзідэнта.

**Генадзь КАРПЕНКА:** — Ацэньваць даклад трэба з двух бакоў. Першы — канстатацыя рэчаіснасці. Тут запярэчыць Прэзідэнту няма чым. Другі — шляхі выйсця. Як мне падалося, у дакладзе ёсць толькі тэзісы, якія, да таго ж, часам супярэчаць і адзін аднаму і нават заканадаўству. Напрыклад, кіруемасць прадпрыемствамі. Для гэтага трэба відазмяніць Закон аб прадпрыемстве. З чым я, безумоўна, згодны, дык гэта тое, што пачынаць трэба з умацавання ўлады. Але не шляхам скарачэння штатаў. Прэзідэнту трэба прымусіць людзей узяцца за работу. Паколькі бяда не ў тым, што ў дзяржаве няма праграм. Яны ёсць, аднак не даводзіліся да лагічнага завяршэння, не апускаліся да мясцовага ўзроўню, ніякага кантролю за іх ажыццяўленнем не было.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:** — Я ў нейкай меры маю дачыненне да падрыхтоўкі даклада. На наш погляд, ён зразумелы і прафесіяналам, і радавым выбаршчыкам. З яго ясна, чым будзе займацца Прэзідэнт, яго ўрад. Магчыма, хтосьці знойдзе ў выступленні Лукашэнкі некаторыя адрозненні ад яго першапачатковай праграмы. Растлумачу, праграма — гэта хутчэй пратакол намераў, тэзісы, а цяпер пайшло іх развіццё, насычэнне. За акрэсленымі сёння накірункамі будуць стаяць канкрэтныя праграмы з канкрэтным механізмам рэалізацыі. Калі яны будуць вытрыманы, то можна спадзявацца, што нам удасца стабілізаваць сітуацыю і захаваць грамадзянскі мір у грамадстве.

Мечаслаў Грыб, які старшынстваваў на сесіі Вярхоўнага Савета, прапанаваў даклад не абмяркоўваць, а прыняць яго да ведама, з чым дэпутаты і згадзіліся. Пасля гэтага Аляксандр Лукашэнка прыняў адстаўку старога кабінета міністраў.

Потым Прэзідэнт прадставіў парламентарыям кандыдатаў у члены ўрада, якіх неабходна зацвердзіць на сесіі Вярхоўнага Савета. Прэзідэнт, звяртаючыся да прысутных у зале, сказаў, што адбор прэтэндэнтаў вёўся па розных крытэрыях, але самым галоўным быў прафесіяналізм. Прэзідэнт назваў чатыры асноўныя прынцыпы, якімі ён кіраваўся, прапануючы менавіта гэтых людзей на ключавыя пасады ў кабінеце міністраў: Ён хацеў бы не наламаць дроў, быць прадказальным, захаваць пераемнасць і ўзяць лепшае з таго, што было раней.

На пасаду Старшыні Савета Міністраў Прэзідэнт прапанаваў Міхаіла Мікалаевіча Чыгіра — прафесійнага фінансіста, эканаміста. Віцэ-прэм"ерамі Аляксандр Рыгоравіч хацеў бы бачыць Міхаіла Мясніковіча, Сяргея Лінга, Уладзіміра Гаркуна і Віктара Ганчара. Пры гэтым Прэзідэнт даў наступнае тлумачэнне: з аднаго боку — рыначнікі Багданкевіч і Мясніковіч, з другога — людзі больш кансерватыўнага складу Чыгір і Лінг. Яны будуць ураўнаважваць адзін аднаго і створаць той неабходны баланс, які павінен быць усюды. Старшыню аграрнай парламенцкай камісіі Уладзіміра Гаркуна Прэзідэнт ацаніў як "цвярозага прагматыка", а Віктара Ганчара — як чалавека "таленавітага, разумнага, да якога ў Вярхоўным Савеце не заўсёды былі справядлівыя".

Міністэрскія пасады Прэзідэнт прапанаваў заняць — Юрыю Захаранку — унутраныя справы, Уладзіміру Сянько — замежныя, Сцяпану Янчуку — фінансы.

Асобная размова зайшла аб кіраўніках КДБ і Міністэрства абароны. Прадстаўляючы на гэтыя пасады, адпаведна, Уладзіміра Ягорава і Анатоля Кастэнку, Аляксандр Лукашэнка сказаў, што гэтыя людзі "будуць рабіць справу, патрэбную Прэзідэнту, Вярхоўнаму Савету і народу".

На пасаду Старшыні Канстытуцыйнага суда быў прапанаваны Дзмітрый Булахаў. Потым Прэзідэнт адказаў на шматлікія пытанні.

Было вырашана, што галасаванне ва ўсіх выпадках будзе тайным, але з адной умовай: Старшыня Канстытуцыйнага суда выбіраецца праз кабіны, як у свой час былі выбраны ўсе іншыя члены гэтага суда, астатнія прэтэндэнты — пры дапамозе электроннага галасавання.

Пасля паўгадзіннага перапынку дэпутаты вярнуліся да абмеркавання кандыдатур, вылучаных Прэзідэнтам на ключавыя пасады ў новым кабінеце міністраў. Міхаіл Чыгір, які, па прапанове Аляксандра Лукашэнкі, павінен узначаліць новы ўрад, не выступаў з праграмнай заявай, але ў адказах на пытанні дэпутатаў вызначыў асноўныя напрамкі дзейнасці.

— У нас разладжаны эканамічны механізм і самыя складаныя яго састаўляючыя: фінансавая і грашова-крэдытная сістэма, — заявіў Міхаіл Чыгір. — Таму па гэтых напрамках будуць прыняты першыя рашэнні. Вельмі вострае пытанне — цэнавая палітыка. У бліжэйшы час мы падрыхтуем усе разлікі і, думаю, дакажам неабходнасць яе перагляду.

Міхаіл Чыгір таксама заявіў, што цэнавая палітыка можа быць ажыццёўлена без пагаршэння жыццёвага ўзроўню народа. На яго думку, рыначная эканоміка не выключае дзяржаўнага рэгулявання, і таму ён мае намер прымаць "жорсткія меры, каб рынак паставіць на належны шлях".

Большасцю дэпутатаў выступленне Міхаіла Чыгіра было падтрымана. За яго кандыдатуру выказаліся 266 дэпутатаў парламента.

Да вячэрняга пасяджэння былі таксама зацверджаны кандыдатуры трох віцэ-прэм"ераў — Уладзіміра Гаркуна, Віктара Ганчара і Міхаіла Мясніковіча. Праўда, за апошняга Прэзідэнту прыйшлося "заступацца", паколькі некаторыя дэпутаты абвінавацілі Мясніковіча ў тым, што ён таксама нясе адказнасць за дзейнасць урада Кебіча, паколькі ў ім працаваў. На гэта Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ведае Міхаіла Мясніковіча як прафесіянала і не мае звестак, якія даюць магчымасць сумнявацца ў прыстойнасці гэтага чалавека.

* * *

21 ліпеня завяршыла работу спецыяльная сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На вячэрнім пасяджэнні парламент разгледзеў шэраг кандыдатур, прапанаваных Прэзідэнтам у склад новага кабінета міністраў. У якасці чацвёртага па ліку віцэ-прэм'ера зацверджаны Сяргей Лінг.

Затым адбылося абмеркаванне кандыдатур на пасады кіраўнікоў шэрагу міністэрстваў, чыё зацвярджэнне патрабуе згоды вышэйшага заканадаўчага органа. Кіраўніком знешнепалітычнага ведамства аднагалосна зацверджаны прафесійны дыпламат Уладзімір Сянько, які два гады працаваў паслом у Польшчы, а з 1994 — у Вялікабрытаніі. А вось міністр фінансаў Сцяпан Янчук, якога Аляксандр Лукашэнка хацеў бы бачыць на гэтай пасадзе і ў будучым, заявіў аб самаадводзе, матывуючы сваю адмову станам здароўя і жаданнем працаваць на менш адказнай пасадзе.

Парламент зацвердзіў таксама "сілавых" міністраў. Начальнік следчага камітэта МУС Юрый Захаранка далажыў дэпутацкаму корпусу аб сваёй праграме рэформы органаў унутраных спраў, у якой акрэслены тры блокі праблем: кадравыя змены, удасканальванне аператыўна-службовай дзейнасці, ініцыятывы ў сферы заканадаўства. 234 дэпутаты прагаласавалі за назначэнне Юрыя Захаранкі міністрам унутраных спраў.

Значна больш часу спатрэбілася дэпутатам для прыняцця рашэння наконт новага міністра абароны. Ім стаў Анатоль Кастэнка, які растлумачыў сваю згоду ўзначаліць узброеныя сілы імкненнем быць карысным грамадству і садзейнічаць станаўленню маладой беларускай арміі, веданнем блізкіх і далёкіх гарнізонаў, якія, як ён сказаў, яму "нават сняцца ноччу". Некаторыя дэпутаты выказвалі прэтэнзіі, што ў свой час, калі Анатоль Іванавіч быў камандуючым войскамі Беларускай Ваеннай акругі, ён "страціў магчымасць кіраваць", што прывяло да разбазарвання і знішчэння ваеннай маёмасці. У сувязі з гэтым выступіў Прэзідэнт, які адзначыў, што нельга падтасоўваць факты і ён асабіста нясе адказнасць за гэту кандыдатуру. За новага міністра абароны прагаласавалі 239 дэпутатаў.

Перш, чым узяцца за абмеркаванне кандыдатуры на пасаду старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Аляксандр Лукашэнка заявіў, што пасля гутаркі з цяперашнім кіраўніком органаў дзяржбяспекі Генадзем Лавіцкім, ён прымае яго адстаўку. Старшынёй КДБ зацверджаны Уладзімір Ягораў, які працаваў у гэтай сістэме ў сямідзесятыя-васьмідзесятыя гады, доўгі час служыў у органах унутраных спраў, а апошнія чатыры гады быў міністрам унутраных спраў рэспублікі.

Старшыня падліковай камісіі Міхаіл Мачуленка азнаёміў дэпутатаў з вынікамі тайнага галасавання праз кабіны па выбарах Дзмітрыя Булахава Старшынёй Канстытуцыйнага суда. Ён паведаміў, што дэпутатамі было выкарыстана 300 бюлетэняў, з якіх 12 аказаліся несапраўднымі. За Булахава прагаласавалі 132 дэпутаты, супраць — 156. Такім чынам, гэтая пасада засталася пакуль вакантнай.

Аляксандр Лукашэнка назначыў на пасаду выконваючага абавязкі міністра фінансаў Мікалая Румаса, які цяпер працуе першым намеснікам міністра.

Парламент зацвердзіў на пасадзе старшыні Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Сцяпана Пісарэвіча, які згодна з часовым рэгламентам стаў таксама членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

Прынята рашэнне аб спыненні дэпутацкіх паўнамоцтваў Віктара Ганчара і Уладзіміра Гаркуна, зацверджаных на пасады віцэ-прэм'ера, а таксама Валерыя Ціхіні і Мікалая Серады, якія ўвайшлі ў састаў Канстытуцыйнага суда. З аналагічнай прапановай у Вярхоўны Савет звярнуўся Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, просьба якога таксама была задаволена.

Закрываючы спецыяльную сесію, Мечаслаў Грыб падзякаваў дэпутатам за эфектыўную работу, пажадаў Прэзідэнту і членам выбранага кабінета міністраў плённай дзейнасці. Ён паведаміў, што на наступны дзень адбудзецца пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета, які вызначыць дату чарговай сесіі. Хутчэй за ўсё яна пачне сваю работу ў другой палавіне верасня.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ПРЭМ"ЕР-МІНІСТР РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЧЫГІР МІХАІЛ МІКАЛАЕВІЧ

Міхаіл Мікалаевіч Чыгір нарадзіўся ў 1948 годзе ў в.Усава Капыльскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям"і. Беларус. Эканаміст, скончыў у 1970 г. Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя В.У.Куйбышава, у 1982 г. — спецфакультэт пры Маскоўскім фінансавым інстытуце.

Працоўны шлях пачаў у якасці начальніка крэдытнага аддзела Бярэзінскага аддзялення Дзяржбанка СССР Мінскай вобласці. Пасля службы ў радах Савецкай Арміі з 1973 па 1980 год працаваў кіраўніком Клецкага аддзялення Дзяржбанка СССР Мінскай вобласці, затым кіраўніком Маскоўскага аддзялення Дзяржбанка СССР г.Мінска. У 1982—1986 гадах на партыйнай рабоце. З кастрычніка 1986 па 1987 год — кіраўнік Мінскай гарадской канторы Дзяржбанка СССР.

У 1988-1991 гадах Міхаіл Мікалаевіч Чыгір працаваў першым намеснікам старшыні праўлення Беларускага рэспубліканскага банка "Аграпрамбанк". З верасня 1991 года па ліпень 1994 года — старшыня праўлення Беларускага акцыянернага камерцыйнага аграпрамысловага банка "Белаграпрамбанк".

Жанаты. Мае дваіх дзяцей.



Звыш дваццаці гадоў працуе на ўборцы збожжавых механізатар калгаса "Барацьбіт" Старадарожскага раёна Рыгор Барадзін. Цяпер ён рыхтуе свой "стэпавы карабель" да выхаду ў поле.

У мінулым годзе передавы камбайнер намалаціў 720 тон збожжа і заняў першае месца ў гаспадарцы.

**На здымку:** Р.БАРАДЗІН з сынам Сяргеем.

*Фота Анатоля БАСАВА.*




## ПРЫСВОЕНА ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

За значны асабісты ўклад у развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, плённую работу Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прысвоена ганаровае званне "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь" дырэктару Дзяржынскай бройлернай птушкафабрыкі Васілю Паўлавічу **ГРУШУ** і старшыні праўлення агракамбіната "Сноў" Нясвіжскага раёна Міхаілу Аляксандравічу **КАРЧМІТУ**.

## НЕСПАКОЙ СТАРШЫНІ

Нягледзячы на эканамічнае бязладдзе, калектыў калгаса імя Чкалава Барысаўскага раёна працуе сёлета зладжана, вынікова. Так, напрыклад, за першае паўгоддзе жывёлаводы гаспадаркі дабіліся значнага павелічэння вытворчасці малака. У параўнанні з леташнім надой ад каровы вырас на 371 кілаграм. І сярэднясутачныя прыбаўленні ў вазе буйной рагатай жывёлы павысіліся за гэты ж час да мінулагодняга на 145 грамаў.

Старанна папрацавалі чкалаўцы на нарыхтоўцы кармоў для грамадскага статка. З першага ўкосу назапасілі ў разліку на ўмоўную галаву жывёлы каля дзевяці цэнтнераў кармавых адзінак травяністага фуражу, што амаль удвая перавышае сярэднераённы паказчык. Аднак настрой у старшыні праўлення калгаса Міхаіла Панцялея далёка не радасны. Кіраўніка непакояць надзённыя праблемы.

— Праз некалькі дзён трэба выводзіць у поле збожжаўборачныя камбайны, а ў запасе ніводнай тоны дызельнага паліва, — з роспачу зазначае Міхаіл Васільевіч. — Ніяк не можам атрымаць бензін ды салярку нават на пералічаныя райаграпрамснабу 140 мільёнаў рублёў. Відаць, нехта накручвае на нашых грашах немалыя барышы, а самі мы ледзь зводзім канцы з канцамі. Выручкі за здадзеную прадукцыю хапае толькі на пагашэнне працэнтаў банкаўскай пазыкі, выплату падаткаў ды зарплаты калгаснікам. Да таго ж новых крэдытаў гаспадарцы не даюць, бо летась спрацавалі стратна. Вось і паспрабуй выжыць у такіх жорсткіх умовах рыначнай стыхіі...

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

■ Нарыхтоўка кармоў

## У Клімковічаў — парадак

***У калгасе "Чырвоная Беларусь" Барысаўскага раёна хлебаробскую дынастыю Клімковічаў ведае кожны. Галава сям'і Віталь Міхайлавіч, якому няшмат засталося да пенсіі, з'яўляецца начальнікам вытворчага ўчастка "Неманіца". Не менш вядомыя і два яго сыны. Адслужыўшы ў арміі, яны звязалі свой лёс з сельскай гаспадаркай. Барыс летась скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію і цяпер узначальвае вытворчы ўчастак "Стайкі". Сяргей — начальнік вытворчага ўчастка "Пагадзіца". Такім чынам, на ключавых кіраўніцкіх пазіцыях тры члены адной сям'і. Дапамагае ці перашкаджае такая сямейнасць справе?***

Перш за ўсё, удала спалучаецца багаты практычны вопыт бацькі з трывалымі тэарэтычнымі ведамі і маладым запалам, цягай да працоўнага саперніцтва сыноў. Здараецца, на ранішніх і вячэрніх «планёрках» яны моцна спрачаюцца паміж сабой, а потым у цесным сямейным коле, нібы нічога не было, шукаюць выхад са становішча.

У час адказных сельскагаспадарчых кампаній, напрыклад, нарыхтоўкі кармоў, каардынуе работу сыноў бацька. Яны, у сваю чаргу, размяркоўваюць рабочую сілу, кантралююць выкананне работ. Сёння атрымлівае падтрымку адзін, заўтра — другі. Узаемадапамога стала ў іх няпісаным правілам. Таму і справы з нарыхтоўкай кармоў у гаспадарцы ідуць добра. Ужо ў канцы першай дэкады ліпеня тут закончылі ўборку сеяных траў на мінеральных глебах. У выніку быў перавыкананы план па нарыхтоўцы сенажу і напалову выкананы па нарыхтоўцы сена. Неадкладна пачалася касьба траў для патрэб індывідуальных уладальнікаў жывёлы, выйшлі касцы на заліўныя лугі.

Сёння ўборка траў першага ўкосу закончана. Спецыяліст калгаса па кормавытворчасці Міхаіл Бародзіч расказвае:

— Сёлетні поспех абумоўлены, найперш, зладжанай каардынацыяй дзеянняў членаў механізаванага атрада, якую забяспечылі, вядома, Клімковічы — кіраўнікі падраздзяленняў гаспадаркі. А яшчэ паспрыяла надвор'е.

Са слоў спецыяліста вынікае: назапашана 3 тысячы тон сенажу, 350 тон сена. Значная колькасць корму прыбавіцца, калі будуць убраны травы на пойменных лугах з плошчы 150 гектараў.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*
*Барысаўскі раён.*

■ Прыватызацыя

## 60 мільярдаў — на бочку

На Дзяржынскі завод бульбапрадуктаў клалі вока многія. Прыцягвала не толькі сама вытворчасць, а і яго геаграфічнае размяшчэнне. Не воддаль ад галоўных транспартных магістралей, а побач з імі, і Мінск недалёка.

Адпалохвала іншае. За ўжо ўзведзеныя карпусы, набытае абсталяванне патрэбна заплаціць 34,6 мільярда рублёў. Колькі будзе каштаваць заканчэнне недабудаваных аб"ектаў пры нашых тэмпах інфляцыі, пакуль што ніхто не лічыў.

Як бы там ні было, а на гэта грошы знайшліся. Вось толькі б каб не кацельня, цеплатраса, сеткі водаправода і каналізацыі Дзяржынска. Іх таксама трэба заканчваць, а затым бязвыплатна перадаць ва ўласнасць гораду. Яны ж пацягнуць не адзін дзесятак мільярдаў рублёў.

Таму, калі было аб"яўлена аб продажы завода, ахвотнікаў набыць яго спачатку не знайшлося. Гэта быў першы ў рэспубліцы аб"ект, які прадаваўся за такую вялізную цану — 60,6 мільярда рублёў. Звычайна стартавы кошт прыватызуемых найбольш буйных аб"ектаў вызначаўся ў некалькі мільярдаў.

І ўсё ж ёсць у нас багатыя арганізацыі. Імі аказаліся канцэрн "Амкадор" і прыватная фірма "Інтэрмарк".

"Амкадор" створаны на базе навукова-вытворчага аб"яднання "Дармаш", у якое уваходзіў і Мінскі завод "Ударнік". Цяпер у канцэрна 84 прадпрыемствы самага рознага профілю. Тут і машынабудаванне, і выпуск звыш ста назваў тавараў народнага спажывання. Рэгулярныя выплаты дывідэндаў па акцыях /а яны прадаюцца свабодна і кошт адной на сённяшні дзень 500 тысяч рублёў/ — некалькі сот працэнтаў іх кошту. Гэта гаворыць аб фінансавай стабільнасці канцэрна.

Фірма "Інтэрмарк" у параўнанні з "Амкадорам" — дзіця. Аднак за тры гады змагла моцна стаць на ногі. Трыццаць працэнтаў імпартных прадуктаў, якія прадаюцца ў магазінах рэспублікі, пастаўляе "Інтэрмарк". Прычым, працуе напрамую з замежнымі фірмамі, без пасрэднікаў.

Вось конкурсная камісія па продажу аб"ектаў незавершанага будаўніцтва абласной камунальнай уласнасці на чале з намеснікам старшыні аблвыканкома В.В.Майко і павінна была вырашыць, каму аддаць перавагу.

Віцэ-прэзідэнт канцэрна "Амкадор" Г.П.Валодчанка і прэзідэнт фірмы "Інтэрмарк" В.Р.Левін прадставілі членам конкурснай камісіі свае аргументы. Калі па размеру першага ўзносу і тэрмінах аплаты аб"екта іх прапановы супалі, то па інжынерных камунікацыях выявіліся істотныя разыходжанні.

На заканчэнне будаўніцтва аб"ектаў камунальнай гаспадаркі Дзяржынска канцэрн выдзяляў палавіну неабходных для гэтага сродкаў. Астатнія — за кошт сумы, атрыманай ад продажу завода і мясцовага бюджэту.

— Мы ж гатовы поўнасцю іх прафінансаваць, — заявіў Вадзім Левін. — Нас падтрымлівае банк "Беларусь", гатовы ўкласці свае капіталы ў дзяржынскі завод і шэраг замежных фірм.

Вы, пэўна, ужо здагадаліся, на чыім баку аказаліся і старшыня Дзяржынскага гарвыканкома, які прыняў удзел, як зацікаўлены бок, у рабоце конкурснай камісіі, і яе члены. Фірма "Інтэрмарк" абавязалася завяршыць усе работы датэрмінова і за два гады завод і камунальныя збудаванні ўвесці ў эксплуатацыю.

Калі ж фірма не выканае прынятыя на сябе абавязацельствы, то заплаціць няўстойку ў размеры 10 працэнтаў кошту аб"екта, і з ёй будзе разарваны дагавор куплі-продажу.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## На кожнага — 90 чэкаў

Амаль чатыры месяцы ў рэспубліцы працягваецца выдача імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць". Кожны з нас атрымлівае права на пэўную долю дзяржаўнай маёмасці. У сярэднім на грамадзяніна Беларусі налічана амаль 90 чэкаў з намінальнай вартасцю кожнага па 25 тысяч рублёў. Такім чынам, адзін сертыфікат чэкаў складае прыкладна 2,25 мільёна рублёў. Тых, хто атрымаў чэкі, непакоіць пытанне: куды іх лепш укласці?

Прапануецца некалькі варыянтаў. Напрыклад, купіць на атрыманыя чэкі акцыі прадпрыемстваў, што прыватызуюцца. У друку апублікаваны спіс з 61 прадпрыемства, якія выпусцілі гэтыя акцыі. Рэспубліканскае Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, якое праводзіла прэс-канферэнцыю, рыхтуе яшчэ адзін спіс на 32 прадпрыемствы. Так што выбар будзе багаты. Калі ж вам цяжка яго зрабіць, можна даверыць свае чэкі спецыялізаваным інвестыцыйным фондам. Пакуль іх у рэспубліцы дзейнічае толькі два. Тут працуюць спецыялісты-прафесіяналы. У далейшым будуць ствараца і новыя фонды. Падана больш як 20 заяў на рэгістрацыю спецыялізаваных інвестыцыйных фондаў, што будуць акумуляваць імянныя чэкі. Фонды таксама не вабяць? Тады вы маеце магчымасць прадаць свае чэкі за наяўныя. Дзесяткі юрыдычных асоб атрымалі права скупкі імянных чэкаў, прычым аб цэнах дагаворваюцца толькі пакупнік і прадавец. І затым у Ашчадным банку неабходна перааформіць свае чэкі на пакупніка.

Арыентавацца ў моры прыватызацыі дапаможа газета "Чалавек і ўласнасць", якую заснавала Міністэрства па кіраванню дзяржмаёмасцю.

*Наталля ШМІДТ.*

## Жыхары в.Мардосы Вілейскага раёна спалохаліся за сваіх дзяцей,

### заўважыўшы на вуліцы на падпіцці мясцовага жыхара, да таго ж раней судзімага, які пагражаў нажом

Не паспелі работнікі міліцыі прыбыць на месца здарэння, як хуліган угнаў саўгасную аўтамашыну ГАЗ-52 і скрыўся ў бок ляснога масіва. Пры праследаванні ўгоншчыка давялося зрабіць 5 стрэлаў па колах аўтамашыны, на што той спыніў яе і спрабаваў адказаць стрэламі ў адказ. Напэўна, жыла яшчэ ў памяці раней судзімага думка, што работнік міліцыі не будзе страляць на паражэнне. Перастрэлкі, сапраўды, не адбылося. Але, каб уціхамірыць узброенага хулігана, капітану міліцыі Юшкевічу давялося зрабіць стрэл з табельнай зброі, ранішы пагражаўшага яму ў правае калена.

Матывы паводзін раней судзімага Б., які адседзеў за кратамі каля 21 года, трэба растлумачыць. Ён і сам пакуль адмаўляецца даваць паказанні міліцыі без прысутнасці адваката.

17 ліпеня ў пас.Самахвалавічы Б. з абрэза паляўнічай зброі пачаў страляць у бок летняй пляцоўкі, размешчанай каля клуба, дзе праходзіла маладзёжная дыскатэка. Дзве дзяўчыны, 1975 года нараджэння, шпіталізаваны з агнястрэльнымі раненнямі груднай клеткі і жывата. Трэцяй пацярпеўшай аказана медыцынская дапамога без шпіталізацыі.

Не пашанцавала ў гэты вечар і прыватнаму прадпрымальніку з Літвы. Не прадаўшы свой аўтамабіль на маскоўскім рынку, той разам з сябрам вяртаўся дамоў па дарозе Мінск-Гродна. Паблізу в.Наваселле Мінскага раёна спыніліся перадыхнуць. Стомленых з дарогі разбудзіў стук па аўтамашыне. Тут жа адзін з трох візіцёраў прыставіў газавы пісталет, а другі нож-кінжал. У вадзіцеля забралі ключы запальвання, камп"ютэрную прыстаўку, купленую ў Маскве для дзіцяці, 210 долараў ЗША, 120 тысяч рублёў банка Расіі.

*Віктар БЫКАЎ,*
*супрацоўнік прэс-группы УУС Мінаблвыканкома.*

